# ULTIMATE WAR™

ISSUE 3

ULTIMATE X-MEN VS. THE ULTIMATES




**Сучасныя Людзі-ікс (2001)**
**Сучасная вайна #3**
пераклад і афармленне:
comicsby
**vk.com/comics_by**

**MILLAR**
**BACHALO**
**TOWNSEND**

ISANOVE '02

MARVEL®

Дзесьці ў ЗША...




Што ж сапраўды, **прыемны гарадок**, генерал Ф'юры. Але чаму вы лічыце яго **самым бяспечным**?

Перш за ўсё таму, спадар прэзідэнт, што гэта не проста гарадок, а месца на свеце, якое найбош ахоўваецца.
З часоў **Кенедзі**, калі пачынала навісаць пагроза, тут хаваліся **ўсе** прэзідэнты...
Абяцаю: пакуль вы тут, з вашай выдатна пастрыжанай галавы не спадзе **ні валасінка**.
Hotel Lincoln


Ні на секундачку не сумняваюся, генерал. Але... пакуль Магнета **палюе** на мяне, не было б больш бяспечна застацца на **вайсковай базе**?

Удава! Ці не пакажаш прэзідэнту, **наколькі** тут бяспечна?
**З задавальненнем**, генерал.
П-пачакайце... Вы сур'ёзна?
Не хвалюйцеся, спадар прэзідэнт, я ўпаду і адключуся, **перш** чым крануся курка.

GOD IN HEAVEN!




Мы кантралюем кожную вуліцу, кожную кветку і камень. Пад назіраннем нават жывёлы. Вы – пад аховай цэлай арміі спецыялістаў «Абароны», сэр.


Калі ў аднаго з прэзідэнтаў пачаліся сямейныя мепрыемнасці... Мяркую, вы пра гэта чулі... Дык вось, ён адсіжваўся менавіта тут.
Я ўражаны.


Ці ёсць якія-небудзь навіны? Што-небудзь здарылася, пакуль я тут?
Нягледзячы на ўсе нашы намаганні, інфармацыя пра нападзенне Магнета на Трыкселіён трапілі ў прэсу. Народ у жахе.
Сёння тысячы людзей не выйшлі працаваць. Наўрад ці наша эканоміка зможа доўга гэта вытрымліваць...


...таму трэба як магчыма хутчэй знайсці Магнета і схапіць яго!
А што з Людзьмі-ікс?
Hotel Lincoln

З Людзьмі-ікс?
Няўжо вас цікавяць
гэтыя гнюсы, сэр?

Вы жа самі сказалі
ў Белым доме: рэч
ідзе пра людзей, якія
**выратавалі жыццё**
маёй дачкі, генерал!

Гэта было **да таго**, як
я даведаўся, што гэтыя
злодзеі захавалі **Магнета**
жыццё. Ды яшчэ і асабіста
яго **абаранялі**!

Толькі з-за гэтага ўжо мож-
на лічыць іх вынаватымі
ў **смерці** людзей на
Бруклінскім масту.

Проста паабяцайце мне зрабіць
усё магчымае, каб **Ксаўе** застаўся
жывым, Нік. Хачу зрабіць для яго
**хаця бы** гэта.

Прабачце, сэр, не ў
маіх **правілах** даваць
абяцанні, якія немагчыма
выканаць.



## Трыкселіён

**Штаб-кватэра «Альцімэйтс». Стан поўнай баявой гатовасці.**

Чорт бы цябе пабраў. Што тут здарылася?

Калі Магнета вырубіў святло, Банэр ператварыўся ў **Халка** і ўцёк, Сціў.

Ужо праз некалькі хвілін уключыўся запасны генератар, і выпусцілі **газ**, але яму хапіла і гэтага часу! Па дарозе Халк зжэрл усю **ахову**.

Ён з'еў іх?!

**Шасцярых**! У кожнага з іх былі **дзеці**, а наш сябрук-вегетарыянец з'еў іх жыўцом!

Я звычайна **не рэагую** на падобныя рэчы... Але ад таго, што вытварае **Братэрства**, мяне проста **трасе**!

Джэнэт, можна з табой **пагутарыць**?

Канешне, хочаш, каб я яшчэ раз зірнула на тое, што **засталося** ад калена **Ртуці**? Я ўжо сказала Ніку, што займуся гэтым **пазней**.

Я не пра гэта, проста... Я ведаю, чаму ты так **засмучана**. Мы ўсе **ведаем**, але гэта **не паўплывае** на ўзаемаадносіны ў камандзе.

Што?! Аб чым ты **гаворыш**, Сціў?

Няма чаго **прыкідвацца**, Джэнэт. Мы ведаем, што ты **мутант** і нарадзілася з суперздольнасцямі.

Ф'юры так сама **ведаў**, калі ты ўступала ў каманду. Дарэчы, гэта першае, што высвятляецца **пры аглядзе**...

Але ж мой **аналіз** быў **чыстым**! Гэта дакладна! Як яны **даведаліся**?

**Дзеля Бога**, Джэнэт! Зразумей, генерал проста не хацеў узгадваць гэтае пытанне!

Мы вядзем вайну **з тэрарыстамі**, а не **з мутантамі**. Проста зразумей **розніцу**.

## Кліўленд, штат Агаё



...Мінулай ноччу паліцыя арыштавала трох прадстаўнікоў Братэрства мутантаў, якія рыхтавалі тэрарыстычны акт.



Падазраваныя прызналіся і зараз утрымліваюцца ў спецыяльнай турме.

Як паведамляецца, іх трымаюць у нечалавечных умовах. Аднак прадстаўнікі Белага дома адказаліся ісці на саступкі ў сувязі з трагедыяй на Бруклінскім масту.




Зноў і зноў паўтараем: гэта не паляванне на мутанатаў...

Мы шукаем толькі прадстаўнікоў Братэрства мутантаў і Людзей-ікс. Астатнім мутантам хвалявацца няма чаго, асабліва калі яны дапамагаюць ураду.



Прафесар Чарльз Ксаўе, нягледзячы на тое, што схаваў інфармацыю пра вызваленне Магнета, зараз быццам робіць усё магчымае, каб абясшкодзіць яго.

Урад аднак адмовіўся ісці на дыялог з Людзьмі-ікс, падкрэсліўшы, што Ксаўе больш не давярае.

Нават не **думай**, Бобі Дрэйк! Даю табе слова: калі зноў сунешся да **Людзей-ікс**, для нас з маці ты проста **перастанеш** існаваць.

Тата, яны ж мае **сябры**! Ты хочаш, каб я проста сядзеў тут і нічога не рабіў, пакуль капітан Амерыка і яго людзі **высочваюць** іх?

Бобі, як далёка ўсё павіна зайсці, каб ты **забыўся** аб гэтым назаўсёды?

Мы ўжо страцілі **працу**, наш **дом**... Мы **хаваемся** ад паліцыі ў доме ў хлопца, якога я не бачыў **з пачатковай школы**!

Я **люблю** цябе. Люблю **больш самога жыцця**, але калі ты зноў да іх далучышся, мы не **вытрымаем** гэтага!

Ты гаворыш так, быццам размова ідзе пра Братэрства мутантаў.

Бобі! Чарльз Ксаўе адрозніваецца ад Магнета **толькі** адсутнасцю **шавялюры**!

## Нью-Ёрк, Ніжні Іст-Сайд

Сховішча Людзей-ікс

Усё яшчэ думаеш пра **Скота**, **Араро**?

Так. Як і **ўсе** тут.

Справа не ў тым, што Цыклоп быў **лідэрам**. На гэты раз мы па-сапраўднаму **страцілі** чальца каманды, Пётр.

Калі **Бобі** і **Генры** траплялі ў бальніцу, ніхто і не мог і думаць, што яны могуць **памерці**. Было адчуванне, што нам усё пад сілу!

Цяпер ілюзіі рассеяліся. Ад гэтага можна **з глузду з'ехаць**! Цыклоп мёртвы, пахаваны пад снегам дзесьці на **Дзікай зямлі**. Вось такі сумны **фінал**, прыяцель...

А цяпер ты разважаеш, **хто** з нас будзе **наступным**?

Амаль здагадаўся.

## Класны пакой

Што значыць: **спыніць** паляванне на Братэрства?

Менавіта тое, што я і **сказаў**. Нашы спробы высачыць і знішчыць іх - **безпаспяховы**.

Трэба пайсці з імі на **кампраміс**, проста **парагутарыць**.

Але ж яны тэрарысты, **прафесар**! Як мы замовім з імі пагадненне, калі не прымаем **нічога** з таго, чым **жывуць** яны?

**Менавіта** з-за таго, што мы былі такімі... **абыходлівымі** з Магнета ў мінулы раз, каманда «Альцімэйтс» і пераследуе нас.

Дык што ж мы ў такім разе **губляем**? Выхада няма. Мы павінны паспрабаваць усё магчымае.

Пагадзіся, **дыялог** – гэта значна лепш, чым **паражэнне**.

**Не падабаецца** мне гэта. Лепш ужо **атакаваць**. Гэтым мы дакажам, што **не прынялі** яго бок.

**Адкажы** мне, Джына... Ты **калі-небудзь** асуджала мае рашэнні? За ўвесь час, што ты мяне **ведаеш**, я хаця б раз падмануў твае **чаканні**?

Не...

Тады павер мне і ў гэты раз, дарагая. Я ж не глупы хлопец. Магнета не зможа адмовіцца...

**Машына** адрамантавана. Яшчэ што-небудзь наладзіць? Я еду ў горад.

Не, дзякуй, Расамаха. Ты адзін ці возьмеш з сабой **Кіцці**?

Кіцці, на маю думку, трохі зараз **занята**, дапамагае Генры з гэтай дурацкай **віртуальнай праграмай**...

Усялякі раз, калі хочаш папрактыкавацца ў кікбоксінгу, на рынг выскоквае натоўп рэлігіёзных фанатыкаў... Таму лепш ім зараз **не перашкаджаць**.

Расамаха падтрымліваў цябе ўвесь гэты час?

**Усе** падтрымлівалі... Я нават не чакала ад рабят такога стаўлення, пасля таго як Скот...

Калі гэта здарылася.

Але, на маю думку, Расамаха - з большым жаданнем! Пасля ўсёй жорсткасці і здрадніцтва, якія ён перажыў, гэта **дзіўляе**!
Хм...
У чым справа?
Мабыць у мяне **паранойя**, але кожны раз, калі я спрабую зразумець, аб чым ён **разважае**...
Яго думкі **ніхто** не можа прачытаць, Джына. У «Зброі ікс» зрабілі **ўсё** для гэтага...
**Ведаю**, проста... не ўпэўнена, што смерць Скота была **няшчасным выпадкам**, як сказаў Расамаха...
Мяркую, ён проста **дазволіў** яму загінуць, каб **застацца са мной**.

# «Метраполітэн-музей»:











**Угоду**? Ты не перастаеш **здзіўляць** мяне, Чарльз.

**Людзі** мараць **знішчыць** нас... Мы хочам, каб **зніклі** яны... І раптам – ты, пацешны чалавечык, які **марыць** аб **сяброўстве**.



Добры жарт.
Гэта не жарт. Урад **знішчыць** нас, калі не **аб'яднацца**, Эрык.
Мяне і маіх студэнтаў ужо **абвінавацілі** ў змове з Братэрствам. Што мы страцім, калі **сапраўды** аб'яднаемся з вамі?
Гэта гаворыш ты, самая слабавольная і чалавекалюбная істота на Зямлі...
І ты сапраўды гатовы **падпарадкаваць** сабе ўсё **чалавецтва**?
Не ўсё, Эрык. Толькі **Амерыку**.
Я гатовы знішчыць усю **краіну**, калі ты дасі клятву, што больш **не будзе** ахвяр.
Пра што ты, Чарльз? Ніхто **не здасца** нам добраахвотна!
Яны падпарадкуюцца, бо ўбачаць, што мы зрабілі з Амерыкай.
Мы не зыходзіліся **ў метадах**, Эрык. Але калі ўжо справа зайшла так далёка... наша **спрэчка вычэрпнута**.
А што ты думаеш аб гэтым, маленькая? Не падобна, каб ты была **шчаслівa**.
Сумненні Кіці **зразумелыя**. Але ці ёсць у яе выбар? Далучыцца да людзей, якія **ненавідзяць** нас?
Ты **здзіўляеш** мяне, Чарльз. Не думаў, што ты **здольны** на гэта. Пахвальна, што ўсё гэта дзеля **студэнтаў**...
Мне трэба **паразважаць**, абмеркаваць тваю прапанову з кімсьці...
У цябе сорак восем гадзін, Эрык.
Мы выйдзем на сувязь з вамі.


Ну як, Чарлі? Яны праглынулі **прынада**?


Цалкам, Расамаха. Гатовы папаляваць?


Яшчэ пытаеш?




Прабачце, Чарльз, але **ўсіх** цікавіць, што гэта за **трызна** наконт **аб'яднання**? Асабіста я на **гэта** ніколі не пайду.
Рады **чуць** гэта, Араро. Гэта толькі невялікі **падман**, дарагая, каб выманіць Братэрства з логава.


Як раз зараз Расамаха іх пераследуе. Як толькі ён высвятліць іх **месца-знаходжанне**, мы да яго далучымся.
Што? Навошта ж вы ілгалі **нам**, прафесар?


А... дык справа ў **тэлепатыі**? Думкі Расамахі немагчыма прачытаць, а нас Магнета бачыць **наскрозь**...
Ты, як заўжды, **неверагодная**, Джына. А зараз мы хутчэй вернемся ў сховішча...


Зброя і машыны ўжо гатовы.


І што ты думаеш, Магнета? Няўжо Чарльз Ксаўе перад пенсіяй паразумнеў?


**Не дуры**, Унус! Чарлі занадта **сама-любны**, каб падзяліць з кімсьці ўладу. Абса-лютна зразумела, што гэта **пастка**.
Дзе, як ты лічыш, быў наш дарагі Расамаха? Непадалёк! А цяпер ён вядзе да нас усю каманду.


Не, Чарльз зайшоў **занадта далёка**, каб зараз далучацца да нас. Дзеці - так, але мы з Чарлі разышліся ўжо вельмі **даўно**...
Спланаваць такую **пастку**... даволі разумна.
Чарльз вельмі хітры. Ніколі не разумеў, як у яго атрымалася атрымаць **рэпутацыю святара**.


Але і я не **самая нявінная** істота на Зямлі. **Хутка** ты ў гэтым упэўнішся.
Аб чым ты?


Чарлі **не адзіны**, хто высочвае ворага...

Так, так... Наша **ананімная к**рыніца інфармацыі на сто адсоткаў мела рацыю, генерал.

Сховішча **Людзей-ікс** – у Ніжнім **Іст-сайдзе**. Не самае камфартабельнае мястэчка.


Так, рабяты, гатовасць нумар адзін! Пакуль мы **не нарабілі шкоду**, яшчэ раз праверым вядомую на дадзены момант інфармацыю...
Усе на пазіцыях, чакам далейшых загадаў...


Тэрыторыя вычышчана?
Амаль. Дайце нам дзесяць-пятнаццаць хвілін, і раён стане пустым.


Капітан Амерыка, гаворыць **Фокстрот**. Прытрымайце сваіх людзей! Спачатку мы нейтралізуем іх **тэлепатыю**.


Блакатары ўключаны, генерал. У вас **дваццаць пяць хвілін** на атаку.


Ну, Жалезны чалавек, **зараз ці ніколі**!

